# ДРУГІ УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Другі Усебеларускі Кангрэс - гэта адзін з этапау барацьбы беларускага народа за сваю нацыянальную і дзяржаўную самастойнасць, барацьбы за самазахаванне, за выжыванне.Каб глыбей зразумець неабходнасць і гістарычную важнасць Другога Усебеларускага Кангрэсу неабходна прагледзець гістарычныя падзеі, якія разгортваліся на Беларусі на працягу шматлікіх стагоддзяу і якія нарэшце прывялі да гэтага векапомнага здарэння, якім укаранавауся беларускі вызвольна-адраджэнскі рух, у сярэдзіне нашага 20-га стагоддзя.

Па свайму паходжанню і складу беларускі народ з'яуляецца абсалютна асобным славянскім народам. Ен мае слаўную гісторыю. Узлет нашай цывілізацыі адбыуся тады, калі і Польшча, і Расія танулі яшчэ у нетрах цемрашальства.Але павярнулася кола гісторыі і, як Рым упау перад варварамі,так і ВКЛ упала перад польскімі езуітамі і маскоускімі ордамі.Упала дзяржава,але не упау народ. І, як толькі грымнула Лютауская рэвалюцыя у Расійскай імперыі і заваліуся царызм, беларускі народ падняу галаву.Стыхійна паустаюць беларускія арганізацыі, літаратурныя і мастацкія згуртаванні, вайсковыя аддзелы, мясцовыя рады, і, нарэшце, адбываецца нечуваная дасюль падзея, склікаецца Першы Усебеларускі Кангрэс, Беларускае Усенароднае Веча у сталічным горадзе Менску. Кангрэс рашуча становіцца на пазіцыю аднаулення беларускай дзяржаунасці і выбірае Раду Кангрэсу, але бальшавікі узброенай сілай разганяюць Кангрэс. Тады Рада Кангрэсу пераутвараецца у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і сабраушыся на паседжанне пад аховай узброеных чыгуначнікау у Менскім чыгуначным дэпо выдае гістарычную Устаўную Грамату 25-га сакавіка 1918 года, дзе абвяшчае Беларусь незалежнай дзяржавай, у форме Беларускай Народнай Рэспублікі, і звяртаецца да свабодалюбівых народау свету падтрымаць маладую Беларускую Рэспубліку супраць націску бальшавіцкай Масквы. Але свет маучыць,а Польшча замест падтрымкі, у хаурусе з той жа бальшавіцкай Масквой,сілай зброі задушваюць Беларускую дзяржаву і раздзіраюць яе на кавалкі,падзяліушы між сабой ганебным Рыжскім трактатам у 1921 годзе.

У заходняй частцы Беларусі, захопленай Польшчай, пачынаецца агульнае знішчэнне усяго беларускага:зачыняюцца беларускія школы, забараняюцца беларускія арганізацыі. Шляхам масавага тэрору польскі урад разграміу Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. Беларусы пазбауляюцца прадстауніцтва у Сенаце. Ліквідуюцца усе беларускія палітычныя, грамадскія, культурныя і гаспадарчыя арганізацыі і установы. Забараняецца беларусам купляць зямлю не толькі у Беларусі (на крэсах усходніх,як называюць палякі гэты абшар), але і перадаваць у спадчыну. Пачынаецца самая жорская паланізацыя праз урадавыя чыннікі і каталіцкі польскі касцел. Незадаволенымі беларусамі перапауняюцца турмы і канцлагер у Картузскай Бярозе.

Ва усходняй частцы Беларусі,бальшавікі стварылі, так званую Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, хаця і на вельмі абрэзанай куртатай тэрыторыі. Стварылі фікцыю беларускага ураду, які на самай справе быу марыянеткай Масквы.Але на самых пачатках, асабліва у часы НЭПа, беларусы шырока разгарнулі нацыянальную дзейнасць: было адроджана беларускае школьніцтва, створаны вышэйшыя навучальныя установы, Акадэмія Навук.Арганізавауся беларускі тэатр, пашыраецца беларуская навуковая і мастацкая творчасць, квітнее літаратура. Справаводства пераводзіцца на беларускую мову...

У Заходняй Беларусі і за межамі узнікае вера, што бальшавікі сапрауды адмовіліся ад расейскага імперыялізму, што на Беларусі сапрауды расцвітае і гартуецца новая Беларусь. Паверылі гэтаму і сябры эміграцыйнага ураду БНР і на канферэнцыі 15 кастрычніка 1925 года у Берліне, вынеслі наступныя дзве пастановы:

1-ая пастанова прынятая на паседжанні Рады Народных Міністрау БНР. Дня 15-га кастрычніка 1925 года у Берліне.

У свядомасці таго, што улада сялян і работнікау, замацаваная у Менску - сталіцы Радавай Беларусі - сапрауды імкнецца адрадзіць беларускі народ культурна, эканамічна і дзяржауна, што Радавая Беларусь есць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, у поуным паразуменні з краевымі арганізацыямі, пастанавілі: спыніць існаванне ураду БНР і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаунага адраджэння Беларусі.

Пастанову падпісалі: А.Цвікевіч.Старшыня Рады Міністрау БНР.
Л.Заяц. Дзяржауны Кантралер БНР.
І.Пракулевіч. Дзяржауны Сакратар БНР.

2-гая пастанова прынятая на паседжанні Рады Народных Міністрау БНР. Дня 15-га кастрычніка 1925 года у Берліне.

У звязку з сучасным становішчам Беларусі,заходняя частка якой знаходзіцца пад акупацыяй Польшчы, а усходняя творыць Беларускую Савецкую Рэспубліку у складзе Сацыялістычнага Савецкага Саюза,у мэтах аб'яднання усіх сіл народа для яго поунага нацыянальна-сацыяльнага вызвалення, у поуным паразуменні з краевымі беларускімі арганізацыямі, пастанавілі абвесціць ад сенняшняга дня урад БНР зліквідаваным і спыніушым сваю дзейнасць.

Пастанову падпісалі: А.Цвікевіч, Л.Заяц, І.Пракулевіч,
В.Захарка.

У гэты самы дзень адбылася, так званая, другая палітычная нарада на якой прысутнічалі усе сябры Рады і Ураду БНР.На гэтую нараду былі запрошаны прадстаунікі ад БССР - Ульянау і Жылуновіч, якія і прынялі мандаты і пячаткі Рады БНР.

Такім чынам спыніу сваю дзейнасць апошні легітымны Урад Беларускай Народнай Рэспублікі,а сябры яго супольна,амаль з усімі сябрамі Рады БНР вярнуліся з эміграцыі у Менск, спадзяючыся шчыра прылажыцца да адбудовы роднага краю.

Аднак, за гэтую памылку прыйшлося дорага расплаціцца. Чакаць прыйшлося не доуга: з 1929-30 гадоу бальшавікі пачалі масавы крывавы разгром усяго нацыянальна-беларускага.

Мільены беларусау, незалежна ад становішча, адукацыі, партыйнай прыналежнасці былі рэпрасаваныя. Тысячы і тысячы беларускай інтэлігенцыі,сялян і работнікау былі растраляныя без ніякай віны, а толькі за тое, што яны былі беларусамі. Тысячы і тысячы высланы у тундру і тайгу Сібіру на пагібель у канцэнтрацыйных лагерах ад здзекау, голаду і марозау.

Рэлігійнае жыцце было поунасцю зліквідавана.Беларуская мова паступова пачала знікаць з прэсы, справаводства, са школау. І нарэшце Беларусьператварылася у такую самую маскоускую каланію, якой была у царскай Расіі. Ізноу пачалося, але яшчэ з большым размахам,нішчэнне помнікау беларускай гісторыі і культуры. Ізноу пачалося вынішчэнне усяго,што было беларускае. Беларуская гісторыя была забаронена зусім , як неіснуючая. Хвалі крывавага тэрору адна за другой пракочваліся праз Беларусь, змываючы усе сляды беларускасці, а у 1939 годзе перакаціліся і на вызваленую ад палякау Заходнюю Беларусь,дзе нішчылася усе беларускае, што яшчэ не было знішчана палякамі. І мімаволі хочацца запытаць: што і як магло вытрымаць гэты крывавы забойчы тэрор? І тут жа выплывае вельмі просты адказ: беларускі народ! Народ-волат! Народ неуміручы, бо ен вытрымау усе гэтыя здзекі, забойствы, гвалт, і як толькі надарылася першая нагода, рашуча падняуся на абарону сваіх чалавечых і народных правоу. Як толькі ураган другой сусветнай вайны пракаціуся праз Беларусь, пачауся рух нацыянальнага адраджэння. Беларускія актывісты на месцах, у гарадах і селах, адразу з вялікім уздымам узяліся за адбудову краіны: паустаюць беларускія гарадскія, раенныя і акруговыя управы, паліцыя, школы, сацыяльная апека, медыцынская абслуга, вайсковыя аддзелы.

У Берліне 19 чэрвеня 1941 года склікаецца нарада прадстаунікоу беларускай эміграцыі і беларусау з Польшчы, і утвараецца Беларускі Нацыянальны Цэнтр, з мэтай планавання, каардынацыі і кіравання беларускай нацыянальна-вызвольнай працай.

У 1942 годзе у Менску адбываецца Праваслауны Усебеларускі Сабор, які пастанауляе арганізаваць Беларускую Аутакефальную Праваслауную Царкву. Паустае Беларуская Народная Самапомач з шырокай сеткай сваіх аддзелау па усей Беларусі.Паустае масавая маладзежная арганізацыя - Саюз Беларускай Моладзі (СБМ),з цэнтрам у сталічным Менску. Утвараюцца аддзелы Беларускай Самааховы і абаронныя вескі для барацьбы з бальшавіцкімі бандамі. Усе гэта патрабуе большай каардынацыі і узаемадапамогі,чым мог даць Беларускі Нацыянальны Цэнтр, і з гэтай мэтай беларускім актывам утвараецца Беларуская Цэнтральная Рада,як Нацыянальна-Беларуская краевае кірауніцтва.Прэзідэнтам БЦР выбіраецца прафесар Радаслау Астроускі,удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу і сябра Рады Случчыны у 1920 годзе.

Беларуская Цэнтральная Рада арганізоувае свой адміністрацыйны апарат у форме Намесніцтвау БЦР у акругах. Пераймае кірауніцтва школьніцтвам,аховай здароуя,судамі,сацыяльнай апекай ды праводзіць мабілізацыю у сваю нацыянальную армію - Беларускую Краевую Абарону (БКА). Пад кірауніцтвам БЦР, беларускі нацыянальны уздым набывае небывалыя дасюль памеры: беларуская моладзь у школе і у шэрагах СБМ,набывае веды аб беларускай гісторыі і традыцыях. Беларуская Краевая Абарона,супольна з Беларускай Паліцыяй рашуча і паспяхова становіцца у абароне беларускай вескі ад рабунку і гвалту партызанскіх бандау і немцау. Беларус пачынае ганарыцца тым, што ен беларус. Агульная беларуская нацыянальная самасвядомасць, за гэты кароткі перыяд,уздымаецца на небывалую вышыню, доказам гэтаму сенняшняя (пасляваенная) арганізаваная і нацыянальна свядомая беларуская эміграцыя.

Падбадзераная такім нацыянальна-патрыятычным уздымам, БЦР, склікае 27-га чэрвеня 1944 году Другі Усебеларускі Кангрэс у сталічным Менску.

Галоунымі мэтамі склікання Другога Усебеларускага Кангрэсу былі:

па-першае:пацвердзіць правамоцнасць пастановау Першага Усебеларускага Кангрэсу і Рады БНР аб волі беларускага народа жыць самастойна і ратыфікаваць акт 25 сакавіка 1918 года, які толькі пасля гэтага набывау статус легітымнасці.

па-другое:паведаміць усе урады і народы свету аб скасаванні усіх дагаворау і трактатау зробленых Масквой і Варшавай ад імя беларускага народа.

па-трэцяе:прааналізаваць і ацаніць працу прароблёную Беларускай Цэнтральнай Радай на чале з прэзідэнтам Радаславам Астроускім, і выбраць новы урад.

27 чэрвеня 1944 года, роуна 47 гадоу таму,а восьмай гадзіне раніцы, у зале гарадскога тэатра, у сталічным горадзе Менску, пад аховай курсантау Беларускай Афіцэрскай Школы,пачалося першае паседжанне Другога Усебеларускага Народнага Кангрэсу. З усіх куткоу Беларусі з'ехаліся 1039 народных дэлегатау каб вырашаць долю сваей Бацькаушчыны і народа.Ехалі, часта рызыкуючы жыццем, бо прабіваліся праз бандыцкія засады і заслоны. Ехалі на Кангрэс, на Усенароднае Веча, бо гэтага вымагау нацыянальны абавязак. Ехалі свеламыя адказнасці хвіліны, каб выканаць волю беларускага народа.

Дэлегаты, якія прыбылі на Другі Усебеларускі Кангрэс прадстауляли Беларусь поунасцю у яе этнаграфічных межах, гэтаму сведчыць пералік акругау выслаушых сваіх прадстаунікоу: Менская, Лідская, Наваградская, Баранавіцкая, Слонімская,Ганцавіцкая, Глыбоцкая, Слуцкая, Вілейская, Берасцейская, Пінская,Кобрынская, Віленская, Смаргонская, Гарадзенская, Магілеуская,Бабруйская, Смаленская, Віцебская, Барысауская, Бранская, Чарнігауская, Арлоуская, Гомельская, Аршанская. Таксама, прыслалі дэлегатау беларускія асяродкі з Рыгі, Лодзі, Варшавы, Кракава, Кенігсберга, Вены і Берліна. І усе гэта у час бамбежак,бандыцкага разгулу усякага роду і масцей, ды набліжаючагася фронту.

Паседжанне 2-га Усебеларускага Кангрэсу адкрыу Прэзідэнт БЦР прафесар Радаслау Астроускі наступнымі словамі:

Грамадзяне! Другі Усебеларускі Кангрэс абвяшчаю адкрытым.Вітаю Вас, дэлегаты і дэлегаткі, як прадстаунікоу беларускага народа, якія сабраліся тут, у сталіцы Беларусі, для вырашэння важных праблемау будучыні нашага народа і Бацькаушчыны. Жадаю Вам, адначасна, ад імя БЦР поспеху у Вашай працы.

Для кіравання працаю Кангрэсу Вам, перадусім, неабходна выбраць прэзідыум Кангрэсу, дзеля чаго прашу Вас назваць кандыдатуры.

Падаецца кандыдатура дацэнта Яухіма Кіпеля.

Праз агульную акламацыю прэзідэнтам Кангрэсу абіраецца спадар Я.Кіпель. Ен дзякуе дэлегатам за гонар і давер, выклікае у прэзідыум Кангрэсу былых удзельнікау Першага Усебеларускага Кангрэсу і пасля кароткай прамовы перадае слова прэзідэнту БЦР для справаздачы аб дзейнасці і дасягненнях БЦР.

Прэзідэнт БЦР Р.Астроускі дае шырокую справаздачу аб дзейнасці БЦР ва усіх галінах грамадскага жыцця: палітычнай, сацыяльнай, адукацыйнай, навуковай, вайсковай,і у канцы прамовы ен кажа: "Наколькі праца, зробленая БЦР, а таксама яе агульная па-

